# Голас Радзімы

№ 32 (2174)
9 жніўня 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





● Здымак на памяць.

● У час перадачы медыкаментаў амерыканскімі школьнікамі ў 1-й клінічнай бальніцы Мінска.

● Давай пагаворым...

Фота С. КРЫЦКАГА.

Пачуць англійскую мову, сустрэць амерыканцаў на вуліцах Мінска сёння — з'ява звычайная. Едуць у Беларусь бізнесмены, каб наладзіць эканамічнае супрацоўніцтва з прадпрыемствамі і арганізацыямі нашай рэспублікі, абменьваюцца творчымі групамі артысты ці, як гэта зрабіла група школьнікаў са штата Вісконсін (на здымках), прыязджаюць проста турыстамі. Маршрут для іх выбраны даволі працяглы. Амерыканскія школьнікі да Мінска ўжо пабывалі ў Маскве і Іванаве, Растове і Смаленску... А наперадзе яшчэ Кіеў і Ленінград... Можа таму так мала часу прабыла гэтая група ў беларускай сталіцы.

Прыехалі школьнікі ў Мінск не з пустымі рукамі. Яны прывезлі дзецям, якія пацярпелі ў выніку чарнобыльскай аварыі, медыкаменты. Свае падарункі юныя амерыканцы ўручылі медыцынскаму персаналу першай клінічнай бальніцы беларускай сталіцы.

(Гутарка нашага карэспандэнта з кіраўніком турысцкай групы Валянцінай ВАКСЕЛІС «Праездам у Мінску» змешчана на 3 стар.).



КАСМІЧНЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ

## ЗМЕНА ШОСТАЙ ЭКСПЕДЫЦЫІ

У адпаведнасці з праграмай даследавання касмічнай прасторы 1 жніўня 1990 года ў 13 гадзін 32 хвіліны маскоўскага часу ажыццёўлены запуск касмічнага карабля «Саюз ТМ-10», які пілатуе экіпаж у складзе камандзіра карабля Манакова Генадзія Міхайлавіча і бортінжынера двойчы Героя Савецкага Саюза, лётчыка-касманаўта СССР Стракалава Генадзія Міхайлавіча.

3 жніўня адбылася стыкоўка карабля «Саюз ТМ-10» з пілатуемым комплексам «Мір». У ходзе сумеснага палёту будзе зроблена замена касманаўтаў шостай асноўнай экспедыцыі навукова-даследчага комплексу Салаўёва і Баландзіна, якія працяглы час працавалі на каляземнай арбіце.

Бартавыя сістэмы карабля «Саюз ТМ-10» працуюць нармальна. Касманаўты Манакоў і Стракалаў адчуваюць сябе добра.

Для Генадзія Манакова гэта першы касмічны палёт.

Да касмічных палётаў пачаў рыхтавацца з 1985 года. Прайшоў поўны курс падрыхтоўкі да палётаў на караблі «Саюз ТМ» і арбітальнай станцыі «Мір».

Двойчы Герой Савецкага Саюза, лётчык-касманаўт СССР Генадзій Стракалаў прымаў удзел у распрацоўцы і выпрабаваннях касмічных апаратаў. Першы касмічны палёт здзейсніў у 1980 годзе на караблі «Саюз Т-3» і арбітальнай станцыі «Салют-6», другі — у красавіку 1983 года на караблі «Саюз Т-8», трэці — у красавіку 1984 года ў складзе міжнароднага савецка-індыйскага экіпажа. Яму прысвоена кваліфікацыя «Касманаўт першага класа».

ВЫНІКІ СЕСІІ

## СОРАК ЧАТЫРЫ ДНІ РАБОТЫ

Цэнтральным на прайшоўшай сесіі Вярхоўнага Савета БССР, як заявіў у сваім заключным выступленні Мікалай Дземянцей, было пытанне аб выніках чарнобыльскай катастрофы, аб выратаванні жыхароў пацярпеўшых раёнаў. І па значнасці, і па часе, і па колькасці выступленняў, і па вастрыні гэта пытанне выходзіць з рада ўсіх разгледжаных. Дэпутаты вярталіся да яго практычна на працягу ўсёй сесіі.

Прыняты асноўныя рашэнні па паскарэнню ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы.

Вынікам дзейнасці сесіі стала Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Прыняцце Дэкларацыі іменна таму і адбылося, сказаў Старшыня Вярхоўнага Савета БССР, што мы ідзём да прававой дзяржавы, маем цвёрды намер яе стварыць. Няхай сёння хтосьці крытыкуе гэты дакумент, але давайце прызнаем: Дэкларацыя адпавядае ін[тарэ]сам беларускага народа.

ЖНІВО-90



Добры ўраджай збожжавых вырашчаны ў саўгасе «Гарняк» Салігорскага раёна. І хоць тэмпы ўборкі стрымліваюцца цяжкімі пагоднымі ўмовамі, механізатары гаспадаркі стараюцца не страціць ніводнага дня. У саўгасе амаль усе збожжавыя камбайны укамплектаваны сямейнымі экіпажамі, якія працуюць вельмі зладжана.
Да 200 тон зерня штодзённа паступае на ток з саўгаснага поля. У тры змены арганізавана тут праца, Гаспадарка ўжо прыступіла да здачы збожжа. Земляробы «Гарняка» адгрузяць яго на элеватар 1000 тон.
НА ЗДЫМКУ: на збожжавым полі саўгаса «Гарняк».

БАЙКОТ ГАРАДСКІМ УЛАДАМ

## ЗАСТАНЕМСЯ БЕЗ ГАРОДНІНЫ?

У канцы ліпеня мінчане не змаглі купіць звычайнай цыбулі, капусты, морквы і іншай гародніны ў гарадскіх магазінах: работнікі гандлю пазачынялі іх. Прычына простая: раней гародніцкія гаспадаркі, што размешчаны вакол сталіцы, выручалі шэфы — рабочыя мінскіх заводаў, служачыя розных устаноў, студэнты. Яны і палолі, яны і ўбіралі гародніну.

Цяпер жа, калі ўсе пераходзяць на гаспадарчы разлік, імкнуцца да збаўленнага рынку, горад адмаўляецца дапамагаць вёсцы, а значыць і самому сабе.

Сёлетняе дажджлівае лета выклікала бурны рост пустазелля, яно заглушыла плантацыі, гародніне пагражае гібель, а магазінам Мінска — пустыя прылаўкі. Зварот дырэктараў гародніцкіх саўгасаў да кіраўнікоў сталічных арганізацый, прадпрыемстваў, вучэбных устаноў дапамагчы на праполцы, бо ўласных сіл у гаспадарцы не хапае, не знайшоў жаданага водгуку. У саўгасах пачалі гародніну заворваць, а на рынках Мінска цэны на яе падскочылі ўдвая.

Супраць такога стаўлення горада да патрэб вёскі і ўзбунтаваліся мінскія гандляры.

Як заявілі кіраўнікі «Мінскгарагрaпрома», калі не будуць прыняты экстранныя меры, увосень горад застанецца без буракоў, морквы, капусты, агуркоў. Усё вырашчанае загіне ў полі.

Раней бы гэтую праблему вырашылі партыйныя ўлады. Цяпер жа яны не маюць права каму-небудзь дыктаваць сваю волю, а Саветы — не могуць: іх распараджэнні не спяшаюцца выканаць.

НАБОР ДЛЯ КУХНІ



**Многім гаспадыням спадабаецца кухонны набор «Бабруйчанка», серыйны выпуск якога пачаты на Бабруйскай мэблевай фабрыцы № 2. У ім да традыцыйнага камплекта дабаўлена мяккая вуглава[я ка]напа. Мыйка зроблена з нержавеючай сталі. У р[абоч]ых сталах, навясных шафах прадугледжана мноства рашотчатых ёмістасцей, паліц і іншых сховішчаў для кухоннага посуду і прадуктаў. Рабочыя паверхні сталоў пакрыты блакітным пластыкам. У далейшым будуць выкарыстаны і іншыя колеры.**
**Многім гаспадыням «Бабруйчанка» прыйдзецца да спадобы. Але, на жаль, сёлета плануецца вырабіць толькі... трыста камплектаў такіх кухань.**
**На фабрыцы № 2 наладжаны таксама серыйны выпуск набораў «Бярэзіна», двух варыянтаў кухні «Вольга». Усяго ў гэтым годзе будзе выраблена 32 тысячы кухонных набораў. У будучыні вытворчасць іх узрасце да 38 тысяч.**
**НА ЗДЫМКУ: так выглядае новы набор кухоннай мэблі «Бабруйчанка».**

*У вялікую роспач прывялі ўсіх шчырых беларусаў адносіны да іх роднай мовы на пасяджэннях сесіі Вярхоўнага Савета БССР гэтага года. Прыняўшы Закон аб мовах у Беларускай ССР, гэты высокі орган дзяржаўнай улады павінен быў бы першым паказаць прыклад правядзення ў жыццё распрацаванага ім жа самім акта. З моманту прыняцця гэтага Закона да адкрыцця ў маі сесіі Вярхоўнага Савета БССР мінула некалькі месяцаў, і для дэпутатаў, беларусаў па паходжанню, асабліва тых, хто некалі вучыўся ў нацыянальнай школе, было дастаткова часу, каб, калі не дасканала, дык хоць у самых гранічных аб'ёмах авалодаць беларускай мовай і навучыцца выступаць па-беларуску. Вядомы прыклады, калі ў 20-х гадах праз тры-чатыры месяцы пачыналі чытаць свае лекцыі па-беларуску выкладчыкі, што прыязджалі да нас з Масквы, Ленінграда і іншых рускіх гарадоў. Для тых, хто добра ведае рускую мову, авалоданне беларускай залежыць толькі ад уласнага жадання, ад усведамлення адказнасці за яе лёс перад гісторыяй і наступнымі пакаленнямі. На даны момант наш парламент па колькасці выступленняў беларусізаваны не больш як на дзесяць працэнтаў. Больш таго, Вярхоўны Савет БССР пасля прыняцця Закона аб мовах у Беларускай ССР зрабіў нават крок назад у плане вернасці нацыянальным прынцыпам, бо раней былыя яго Старшыні вялі пасяджэнні на беларускай мове, а цяперашні — на рускай. Трэба, нарэшце, прызнаць, што ў нас ёсць, а з цягам часу павінна павялічыцца колькасць пасад, якія патрабуюць абавязковага ведання беларускай мовы.*

*(Л. ЛЫЧ, доктар гістарычных навук).*

ПРАГРАМА ЎРАДА

## МЭТА—ПОЎНАЯ ЭКАНАМІЧНАЯ САМАСТОЙНАСЦЬ

Пасля сфарміравання ўрада, у канцы сесіі Вярхоўнага Савета БССР, перад дэпутатамі з праграмным дакладам выступіў Старшыня Савета Міністраў Беларусі Вячаслаў Кебіч. Праграма дзейнасці новага ўрада, як заявіў прэм'ер, накіравана на рэалізацыю суверэнітэту рэспублікі, каб Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце набыла жывую плоць, ператварылася ў рэальныя даброты для кожнага жыхара Беларусі.

Умовы, у якіх новы ўрад пачынае сваю работу, неспрыяльныя: перад ім стаіць задача надзвычайнай складанасці — вывесці рэспубліку, яе эканоміку з цяперашняй сітуацыі. А сітуацыя гэта такая: у краіне пагаршаецца кіруемасць гаспадаркай на ўсіх узроўнях. Працягваецца зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці, высокімі тэмпамі расце выпуск грошай у абарачэнне, павялічваецца дэфіцыт па знешнегандлёвых аперацыях.

Нарастае інфляцыя, якая набывае зусім новыя формы. Пачаўся яўны працэс уцёкаў ад грошай, калі галоўным жаданнем спажыўца становіцца жаданне як мага хутчэй патраціць іх як хочаш і на што хочаш.

Ва ўмовах адкрытасці рэспубліканскага рынку — у нас жа няма пакуль ні сваёй грашовай сістэмы, ні свайго нацыянальнага банка, ні таможні — гэтыя дэструктыўныя працэсы пачынаюць аказваць усё большы націск на нашу народную гаспадарку.

Вынікі работы народнай гаспадаркі рэспублікі за першае паўгоддзе самыя несуцяшальныя. Спаўзаюць уніз прыросты прамысловай вытворчасці. Калі, скажам, у красавіку, яны склалі 5,4 працэнта, у маі — каля трох, то ў чэрвені практычна ніякага прыросту наогул не было.

Выйсце з такога становішча кіраўнік урада бачыць у першую чаргу ў навядзенні дысцыпліны на прадпрыемствах, ва ўстановах, арганізацыях, дысцыпліны ўзаемаадносін паміж рэгіёнамі і ў хутчэйшай рэалізацыі на справе поўнай эканамічнай самастойнасці рэспублікі.

Таму Савет Міністраў распрацаваў комплексны план арганізацыйна-практычных мер па рэалізацыі канцэпцыі эканамічнага суверэнітэту рэспублікі і пераходу на рыначную эканоміку.

У гэтым плане прадугледжваецца, што Беларусь павінна мець поўную самастойнасць у вызначэнні структуры эканомікі, форм і метадаў гаспадарання і кіравання грамадскай вытворчасцю. Яна павінна таксама самастойна размяркоўваць атрыманы нацыянальны прадукт і даход, сама наладжваць эканамічныя сувязі на міжрэспубліканскім і міжнародных узроўнях.

Цэнтральнымі элементамі тут выступаюць дэцэнтралізацыя ўласнасці, раздзяржаўліванне эканомікі.

Даклад урада прасякнуты трывогай за становішча на спажывецкім рынку. Таварны голад з кожным днём усё больш адчуваюць жыхары рэспублікі. З прылаўкаў магазінаў зніклі нават простыя вырабы штодзённага ўжытку, людзі купляюць усё без разбору, многа тавару вывозіцца за межы Беларусі. Калі становішча не зменіцца, прэм'ер паабяцаў увесці ў абарот уласныя грошы.

Упершыню на высокім урадавым узроўні была дадзена іншая ацэнка адносін дзяржавы і чалавека.

Увогуле, нам трэба мяняць нашы погляды і ўяўленні аб забеспячэнні людзей сацыяльнымі дабротамі, адзначыў В. Кебіч. Яны ў нас часта спрошчаныя, а то і проста скажоныя. Склалася так, што дзяржава, як правіла, выступае ў ролі дaруючага і ахвяруючага, а чалавек — у ролі прасіцеля і атрымальніка.

Гэта толькі здаецца, што многія нашы сацыяльныя даброты бясплатныя, бо на самай справе зарплату сваю кожны працаўнік атрымлівае не за ўсю ўкладзеную працу. Частку прыбавачнага прадукту дзяржава акумулюе і затым праз грамадскія фонды вяртае чалавеку, але ўжо абязлічана, у выглядзе нібыта дараваных яму даброт.

І атрымліваецца быццам бы так, што за даранае трэба толькі дзякаваць. Але як можна дзякаваць дзяржаве, скажам, за нашу ахову здароўя, калі да ўрача трапіць — складана, у бальніцу легчы —праблема, патрэбнае лякарства не купіць.

Таму калі дзяржава ўзяла на сябе клопаты аб здароўі людзей, то ўсё, што залежыць ад яе, павінна быць гарантавана на справе. Гэтага і будзе дабівацца ўрад у сваёй практычнай рабоце.

І яшчэ адзін момант, на які хацелася б звярнуць увагу чытача, — планы ўрада ў галіне нацыянальнай культуры, нацыянальнага адраджэння, пра якое сёння многа гавораць у Беларусі, — гэта мова, гісторыя, традыцыі, звычаі, гэта адносіны паміж людзьмі, гэта значыць усё тое, што складае аснову культуры і маралі народа. Гэта, нарэшце, рэлігія.

З таго прыніжанага стану, у якім усё гэта ў нас доўгія гады знаходзілася, наша грамадства стала нарэшце выбірацца. І нельга не прызнаць, што сур'ёзны штуршок гэтаму працэсу далі новыя рухі.

Але гэта толькі пачатак той вялікай работы, якая нас чакае. Урад глыбока заклапочаны тым, што працэсы нацыянальнага адраджэння ідуць пакуль што марудна, і са свайго боку будзе рабіць усё для таго, каб надаць ім тую дынаміку, якая адпавядала б спадзяванням народа.

Аб'ядноўваючай асновай усіх духоўных пераўтварэнняў, вядома, з'яўляецца беларуская мова, і прыняты Вярхоўным Саветам адпаведны закон павінен выконвацца няўхільна. Будзе аказвацца неабходная падтрымка развіццю культуры і мовы іншых народаў, якія насяляюць рэспубліку.

Урад будзе рабіць усё для таго, каб культура нашага народа станавілася багацейшай. Без гэтага няма высокай маралі, не можа існаваць сучасная навука, не дзейнічаюць ні сацыяльныя, ні эканамічныя законы.

## НЯЛЁГКАЕ МАЙСТЭРСТВА ГОРАДАБУДАЎНІЦТВА

# НА БЫЛЫХ УСКРАІНАХ

**...Дзяўчынка выбегла з пад'езда і паімчала да арэляў. А ўслед данеслася: «Пачакай, і я з табой». Праз мінуту абедзве малыя ўзляталі «аж да неба». А іх аднагодкі корпаліся побач у пясочніцы, з'язджалі з дзіцячай горкі ці займаліся ў спартыўным гарадку. Прыемна было бачыць такую амаль што ідылію. І не дзе-небудзь у цэнтры горада, а ў адным з маладых мікрараёнаў Мінска Захад-3.**

Падумалася: усё ж такі паркрысе наладжваецца добры быт, выхоўваюцца пэўныя традыцыі, сваё жылое асяроддзе. І стварыць яго, гаворачы мовай спецыялістаў, не толькі архітэктурныя формы — арэлі, пясочніцы і інш., але і размешчаныя ў сотні метраў адсюль дзіцячы сад і школа. Зручна дзецям і іх бацькам, якія літаральна са сваіх вокнаў могуць назіраць, як дзіця, не пераходзячы вуліцу, бяжыць, напрыклад, на ўрокі. Не затрачваюць шмат часу сем'і гэтага і іншых дамоў і на наведванне аптэкі, хімчысткі, пошты, ашчаднай касы. А нядаўна адкрылі свае дзверы універсальны магазін «Нарач» і дзіцячая паліклініка. Словам, многа зроблена тут для людзей. Ды і не толькі тут. Аблічча большасці мікрараёнаў сталіцы Беларусі сёння ў многім вызначаецца наяўнасцю ў іх моцнай сацыяльнай інфраструктуры. Архітэктары і спецыялісты даўно зразумелі, што чалавека хвалюе ўжо не столькі, дзе ён жыве і на якім паверсе кватэра, а наколькі зручна будзе праводзіць вольны час яго сям'і, ці забяспечаны быт усім неабходным, як дабірацца на работу.

У гэтых адносінах новыя мікрараёны Мінска знаходзяцца ў пэўным выйгрышы. Нават карэнныя мінчане з задавальненнем перасяляюцца на былыя ўскраіны — у Вяснянку, Уручча... Кватэры там больш камфартабельныя, чысцейшае паветра, ды і комплекснасць забудовы прыцягвае ўвагу.

Напрыклад, Кунцаўшчыну, што ўзводзіцца побач з Захадам, архітэктары назвалі мікрараёнам бульвараў. Тут таксама адначасова з першымі дамамі будуюцца школы і дзіцячыя сады, магазіны, служба быту. Усе дамы запраектаваны так, каб у іх было многа сонца.

Галоўная прыкмета той жа Кунцаўшчыны — адсутнасць дарог, што звычайна дзеляць забудову. Прагрэсіўнае праектнае вырашэнне, якое прапанавалі ў інстытуце «Мінскпраект», дазволіла замяніць іх пешаходнымі бульварамі. Сам жа раён настолькі кампактны, што да любога прыпынку грамадскага транспарту можна дабрацца за некалькі мінут.

А возьмем тыя ж бульвары. Яны праходзяць па самых ціхіх месцах і звязваюць кожны з трох мікрараёнаў з мясцовым паркам. У зялёную зону, бліжэй да бульвараў, вынесены і дзіцячыя сады. Тэрыторыя каля дамоў і дашкольных устаноў будзе зусім бяспечная для гульняў. А вось дазвол на заезд у раён атрымаюць толькі машыны, якія абслугоўваюць гандлёвыя кропкі і пошту. Для асабістых аўтамабіляў плану[illegible] пабудаваць гаражы.

Архітэктары ўмела выкарысталі і асаблівасці рэльефу. На самым высокім месцы ў мікрараёне Кунцаўшчына-2 ужо з'явілася група 16-павярховых жылых дамоў. Першыя навасельцы адзначаюць, што кватэры ў іх больш прасторныя, павялічаны і памер кухань.

Але мінчане ўсё ж з большым нецярпеннем чакаюць пачатку забудовы мікрараёна Лебядзіны. Калі ў папярэдніх выкарыстоўваюцца традыцыйныя метады і формы забудовы, дык архітэктурнае рашэнне ў Лебядзіным зусім іншае. І галоўная асаблівасць тут у тым, што дамы будуць рознай павярховасці: ад 3—4 да 10—12 і больш паверхаў. Знешні выгляд новага мікрараёна вызначыўся ў ходзе праведзенага ў Мінску ўпершыню ў нашай краіне міжнароднага конкурсу на лепшую забудову мікрараёна. Перамаглі ў ім дойліды Чэхаславакіі. Іх праект і вызначыць будучыню гэтага цудоўнага кутка сталіцы рэспублікі.

Ёсць, безумоўна, нямала ўдач і ў іншых раёнах. Гэта дасягаецца тым, што кожны з іх узводзіцца па індывідуальнаму праекту. А яшчэ тым, што спецыялісты імкнуліся замацаваць і развіць поспехі, якія былі дасягнуты ў такіх арыгінальных раёнах, як Усход-1, Зялёны Луг, удастоеных раней Дыпломаў ВДНГ СССР. І хоць шчыльнасць забудовы ў іх даволі высокая, дамы не выглядаюць скучана, дзякуючы астраўкам зялёніны паміж дамамі, умеламу выкарыстанню рэльефу мясцовасці, багатай каляровай гаме. Увагу мінчан і гасцей горада, напрыклад, нязменна прыцягваюць каляровыя мазаічныя пано на тарцах буйнапанельных дамоў з боку Ленінскага праспекта, а таксама колеравае выдзяленне асобных дэталей саміх будынкаў. Побач са спаранымі 14—16 павярховымі дамамі прыбудаваны комплексы устаноў сацкультбыту, на ўзгорку выдзяляюцца жылыя вышынныя дамы з маналітнага бетону. Усё гэта надае маштабнасць, своеасаблівасць гэтай частцы забудовы.

Безумоўна, ва ўмовах тыпавога праектавання цяжка надаваць кожнаму мікрараёну такую своеасаблівасць. І ўдачы мінчанам спадарожнічалі часцей за ўсё ў стварэнні пэўнага мікраклімату ў мікрараёнах, комплекснасці, распрацоўкі асобных дэталей дамоў. Гэта дазваляе паступова ўзбагаціць панарамнае ўспрыманне сілуэта жылых комплексаў у першую чаргу з дапамогай экранаў агароджаў лоджый, рашотак на лесвічна-ліфтавых холах, разнастайнасці аддзелкі паверхні панеляў. На жаль, тут далей выкарыстання прысыпкі каменнай крошкай ці абліцоўкі шклянакерамічнай пліткай справа не заходзіць.

У цэлым ствараецца даволі прывабны выгляд новай забудовы. Як удалося яго дасягнуць, калі вядома: у гады вайны горад быў амаль цалкам разбураны. Сутнасць у тым, што нават ва ўмовах цэнтралізацыі тыпавога праектавання архітэктары ўсё ж такі ўмелі адстойваць свой пункт погляду, удала выкарыстоўваючы плюсы індустрыяльнага домабудавання, пазбеглі нівеліроўкі забудовы, вялі яе комплексна. А яшчэ магчыма і таму, што тут наладзіліся добрыя, дзелавыя адносіны паміж архітэктарамі і будаўнікамі. І хоць гэта гучыць нязвыкла [illegible] такія адносіны — рэальнас[illegible].

Цяпер у Мінску сыходзіць з канвеера больш за 85 працэнтаў жылля. Гэта значыць, што на будоўлях застаецца толькі змантыраваць прывезеныя з цэхаў панелі ці блок-пакоі. Разам з тым расце колькасць цагляных будынкаў, актыўна ўкараняецца маналітнае будаўніцтва. Ёсць надзея, што нашы мікрараёны стануць яшчэ больш разнастайнымі.

Іншымі становяцца жылыя забудовы ва ўсіх буйных гарадах Беларусі. Першынство сярод іх цяпер па праву належыць Брэсту. Дакладней, Брэсцкаму мікрараёну Усход-3. Як і ў сталіцы рэспублікі, у абласным цэнтры акцэнтавалі ўвагу на тым, каб стварыць у мікрараёне не толькі своеасаблівую забудову, але і пэўнае жылое асяроддзе. Тут здолелі злучыць раней цяжка злучальнае: жылыя дамы ў тры, пяць і дванаццаць паверхаў. Праўда, і раней асобныя архітэктары марылі аб такой забудове. Але права на ажыццяўленне яе не атрымалі. Спецыялістам інстытута «Брэстграмадзянпраект» удалося ператварыць сваю задуму ў жыццё. Яшчэ адна асаблівасць — высокая якасць добраўпарадкавання з дзесяткамі малых архітэктурных форм, якія адразу ж пасля заканчэння будаўніцтва пачынаюць жыць самастойным жыццём, радаваць людзей, ствараючы ім умовы для нармальнага адпачынку і быту.

Зразумела, беларускія архітэктары не лічаць дасягнутае мяжой сваіх магчымасцей. Ужо цяпер вылятае нямала крытычных стрэл у адрас панельнага домабудавання, гучаць заклікі не жыць старымі заслугамі. Мінчане крытыку прызнаюць і стараюцца накіраваць свае пошукі і ўменне ў такім напрамку, каб гэта пайшло на карысць кожнаму дому, кожнай сям'і.

**Мікалай БАЖКО.**

## ЮНЫЯ АМЕРЫКАНЦЫ ЗНАЁМЯЦЦА З СССР

# ПРАЕЗДАМ У МІНСКУ

ПРЫЕЗД чарговай групы амерыканскіх турыстаў у Мінск падрыхтаваў мне прыемны сюрпрыз. Высветлілася, што нашых юных гасцей суправаджае суайчынніца і... мая аднакласніца Валянціна Каўцэвіч. Цяпер яе прозвішча Вакселіс.

Шкада, што не хапіла часу пагутарыць як след. За нейкія хвіліны ўдалося ўспомніць тое-сёе са школьных гадоў, крыху даведацца пра групу з Вісконсіна.

Калісьці мы хадзілі ў Любчанскую школу, што на Навагрудчыне. Пасля сканчэння вучобы кожны выбраў сваю сцяжынку ў жыцці. Валянціна паступіла ў інстытут, вярнулася дамоў у Любчу выкладчыцай англійскай мовы. А хутка выйшла замуж і паехала жыць у ЗША. Зараз у адной са школ выкладае рускую мову.

— Сям'я, любімая праца, свой дом і свая машына. Значыць, «ноў проблем?» — пытаюся я ў Валянціны.

— Праблемы заўжды былі і будуць, — адказвае суайчынніца. — Спачатку шукала працу — без рэкамендацыі не так проста знайсці нешта падыходзячае, абжываліся, набывалі рэчы, дом, машыну, заадно гадавалі сыноў. Іх у мяне двое: старэйшаму дваццаць два, а малодшаму — дзевятнаццаць гадоў.

— Ну, а ці цяжка жыць на чужыне? — задаю ёй чарговае пытанне. — Вось ужо і сыны твае дарослыя, колькі часу прайшло, як выехала ў Амерыку. Напэўна, прывыкла?

— Не, не прывыкла. І час не лечыць. Ад тугі па радзіме няма лекаў. Мне яшчэ пашчасціла: муж рускага паходжання, дома размаўляем на рускай мове. Знаёмых, выхадцаў з Савецкага Саюза, мала. Ёсць палякі, а вось беларусаў блізка няма.

Валянціна Каўцэвіч размаўляе на добрай беларускай мове. І проста не верыцца, што побач з ёю няма нашых землякоў. Падумалася: напэўна часта бывае на Навагрудчыне ці атрымлівае ў ЗША газеты з СССР.

— На першым часе газеты, нават «Голас Радзімы», удавалася чытаць. Але вось ужо працяглы час яна чамусьці не прыходзіць. З кожнай паездкі на радзіму прывожу кнігі на беларускай мове, падручнікі для амерыканскіх дзяцей, што вывучаюць у нашай школе рускую мову. Вось і не забыла нашу гаворку. Адно скажу: цяжка мне даюцца такія паездкі на радзіму...

— Матэрыяльна? — выказваю здагадку.

— Не. З грашыма тут усё ў парадку, — кажа Валянціна Міхайлаўна. — Сэрца рвецца ў Беларусь. А вяртаюся, бы з нейкім каменем на сэрцы. У 1981-м годзе памерла маці. Дык мне ў Мінску чыноўнікі не давалі дазволу тады паехаць у Любчу цэлых пяць дзён.

— Цяпер жа такога няма.

— Няма. Але мне не лягчэй. Летась паехала наведаць брата ў Любчы. Дарога пралягала ля матчынай хаты. Але ўжо і не матчынай, бо няма болей маці, а хату прадалі чужому чалавеку... Цяжка ўсё гэта бачыць. Ведаць, што цябе ўжо ніхто не чакае на родным парозе.

...Спрабую перавесці гутарку на іншую тэму. Прашу расказаць пра юных турыстаў, якіх суправаджае Валянціна Каўцэвіч, хто арганізаваў іх паездку па Савецкаму Саюзу.

— У нашай групе дваццаць сем вучняў дзевятых—дванаццатых класаў. Знаёміцца з імі я фактычна пачала ў дарозе, — расказвае Валянціна Міхайлаўна. — Жадаючых паехаць у СССР было вельмі многа. Толькі выбіраў вучняў сам губернатар Вісконсіна. І не з адной нашай школы, а з усяго штата. Падрыхтавала наша турнэ і выбрала маршрут арганізацыя «Народ да народа», якая была створана яшчэ прэзідэнтам Эйзенхаўэрам у 1962 годзе.

— Хто забяспечыў групу грашыма?

— Частку грошай дала названая арганізацыя, большую ж зарабілі самі вучні на канікулах і ў вольны час. У ЗША нават дзеці маюць добрыя магчымасці зарабляць грошы. Усяго гэта паездка абыдзецца недзе па чатыры тысячы рублёў кожнаму.

Галоўная мэта паездкі амерыканцаў у СССР — пазнаёміцца з жыццём нашай краіны, наладзіць кантакты з савецкай моладдзю. Ці ў поўнай меры ўдалося гэта зрабіць? Ці задаволены ўсім?

— І так, і не, — адказвае кіраўнік. — Нашых дзяцей вельмі добра сустракалі савецкія людзі: наладжвалі гутаркі, частавалі, ахвотна расказвалі аб сваім жыцці. А ў Мінску мая сястра, якая жыве на Антонаўскай вуліцы, наладзіла ім «салодкі стол». І ўсё-такі на працягу многіх дзён падарожжа вельмі многа было, калі можна так сказаць, афіцыйнасці. Скажам, у Маскве, Смаленску, Растове, тым жа Мінску многа выдатных музеяў. Гэта — добра. Але і занадта аднастайна. Нашы дзеці прасілі, для «разгрузкі», наладзіць хоць бы футбольную ці баскетбольную сустрэчу з савецкімі равеснікамі, нейкую іншую спартыўную альбо забаўляльную гульню.

...Не прайшло і дваццаці хвілін, як амерыканскія турысты наведалі 1-ю клінічную бальніцу ў Мінску, дзе ўручылі медыкаменты і падарункі ўрачам і дзецям з чарнобыльскай зоны, што праходзяць тут абследаванне і лячэнне. Яшчэ пад гіпнозам убачанага і пачутага знаходзілася мая субяседніца. Глыбокае ўражанне зрабіла на Валянціну Міхайлаўну гутарка з урачамі клінікі.

— Мне казалі, што некаторыя дзеці не змогуць пакінуць клініку зусім здаровымі. Не хапае тут сучаснага абсталявання, медыкаментаў. Як высветлілася, такіх хворых не сотні, а тысячы. Гэта жахліва!

— Ці ведаюць у вашым штаце аб памерах чарнобыльскай катастрофы? — пытаюся я ў Валянціны Міхайлаўны.

— Ні ў маім штаце, ні ў многіх іншых мясцінах Амерыкі людзі не ўяўляюць маштабаў бедства. Лічаць катастрофу здарэннем, якое не выклікае вялікай небяспекі, асабліва для іншых народаў і краін. Не будзем хадзіць далёка за прыкладам. Калі мы збіраліся ў турыстычную паездку па Савецкаму Саюзу, то не ведалі, якія медыкаменты ўзяць з сабой. Вось і атрымалася: іншыя амерыканцы «нешта» бяруць з сабой, ну і мы ўзялі, як падказвалі шпіталі і розныя арганізацыі.

— Хіба ж амерыканская прэса, радыё, тэлебачанне не расказваюць аб трагедыі ў Чарнобылі, не даюць ацэнку таму, што тут здарылася?

— Расказваюць, але вельмі мала. Толькі навошта папракаць тых жа амерыканцаў? Нам, савецкім эмігрантам, прыходзяць з Радзімы газеты і часопісы. І толькі ў апошнія месяцы чарнобыльская трагедыя атрымала больш-менш дакладную ацэнку. Трэба прад'яўляць прэтэнзіі спачатку свайму ўраду, які палічыў за лепшае «не выносіць смецця з хаты». Але нават добра напісаны матэрыял у газеце і часопісе не дасць такога ўяўлення аб трагедыі людзей чарнобыльскай зоны, якое мы атрымалі, пабываўшы ў Беларусі, на Украіне і ў Расіі. Калі мы прыедзем у ЗША, то раскажам усім, да чаго прывяла бестурботнасць людзей пры эксплуатацыі «атама». Вынікі трагедыі ўжо даўно перасягнулі межы адной краіны. А калі так, то і змагацца з бедствам трэба ўсёй грамадой.

...Валянціна Каўцэвіч спяшалася да сваіх вучняў, якія збіраліся працягваць турысцкую паездку — у Кіеў. На развітанне папрасіла дасылаць ёй «Голас Радзімы», паабяцала, што газету будуць чакаць многія эмігранты. А яшчэ атрымала дарункі ад таварыства «Радзіма» — пласцінкі з запісамі песень беларускіх выканаўцаў і, вядома, падручнікі па беларускай мове — чаго так не хапае чалавеку, які жыве на чужыне. Запрасіла супрацоўнікаў таварыства наведаць Вісконсін, інфармаваць аб паездках турыстаў, творчых груп у ЗША. Што, вядома, і будзе зроблена ў першую чаргу праз газету «Голас Радзімы».

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

*ЦІКАВА ВЕДАЦЬ*

# З ГІСТОРЫІ ЛУНІНЦА

Першае ўпамінанне аб Лунінцы адносіцца да 1540 года. У «Метрыках Вялікага княства Літоўскага» запісана, што нехта Ян Пятровіч Неміровіч завяшчаў свой маёнтак разам з сялом Лунінец сваёй жонцы Ганне Сапежанцы. Другі запіс адносіцца да 1661 года. Памешчык Падзярэўскі абменьвае сяло Лунінец на Радаванавічы Берасцейскага староства. Адзначаючы 450-гадовы юбілей горада. Міністэрства сувязі выпусціла паштовы мастацкі канверт, на малюнку якога адлюстраваны чыгуначны вакзал. Пад малюнкам подпіс: «Лунінец Брэсцкай вобласці. 450 год».

У другой палове мінулага стагоддзя Лунінец — невялікае сяло Пінскага павета Мінскай губерні з насельніцтвам крыху больш за 350 чалавек. Магчыма, Лунінец так і застаўся б невялікай вёскай, калі б не будаўніцтва чыгункі Вільня — Баранавічы — Лунінец — Пінск, а да 1886 года сяло стала буйной вузлавой станцыяй з лініямі чыгунак на Сарны і Калінкавічы. У IX томе «Расіі», апісваючы Палессе, аўтар піша, што «...вялікая вузлавая станцыя Лунінец, якая размешчана пры перасячэнні з Брэсцка-Бранскай лініяй Палескай чыгункі, грузіць па апошняй лініі да 6.5 мільёна пуд. хлебных і іншых грузаў». Да канца XIX стагоддзя ў Лунінцы жыло больш за тры тысячы чалавек. З архіўных запісаў даведваемся, што «Лунінец. с (яло) Мінск. пав., праваслаўных 2 512, рымскакатолікаў 319, іудзеяў 293, мужчын 697, жанчын 635, агульная колькаць жыхароў 3 167». На станцыі былі пабудаваны галоўныя рамонтныя майстэрні Палескіх дарог, шпаланасычальны завод, паравознае дэпо з паваротным кругам, воданапорныя вежы, было адкрыта шасцікласнае чыгуначнае вучылішча, аднакласная царкоўнапрыходская школа. Дакладных звестак аб адкрыцці пошты ў Лунінцы знайсці не ўдалося. Але ў «Паштова-тэлеграфным часопісе» за 1888 год сказана, што «...з лістапада 1888 года паштовае аддзяленне ператвараецца ў паштова - тэлеграфнае». Такім чынам Лунінец быў уключаны ў адзіную расійскую тэлеграфную сетку, што дало магчымасць жыхарам, да таго часу ўжо буйнога сяла, пасылаць тэлеграмы ва ўсе бакі імперыі. У маёй калекцыі ёсць тэлеграмы таго часу. Вось тэлеграма з Пінска ў Лунінец. Тэкст яе цікавы тым, што паказвае характар узаемаадносін, службовую дысцыпліну, правілы службы ў паліцыі Расіі. Па гэтых правілах малодшы паліцэйскі чын не меў права без дазволу начальства жаніцца. Для атрымання дазволу неабходна было не толькі падаць прашэнне, але і даць некаторыя анкетныя даныя сваёй выбранніцы. Малодшы чын лунінецкай паліцыі нехта Харужаны вырашыў узяць шлюб, пра што паведаміў свайму начальству. У адказ на прашэнне і была паслана тэлеграма, якая захоўваецца цяпер у маёй калекцыі. Вось яе тэкст: «Тэлеграф у Лунінцы. Прынята з Пінска. 4.VII.1889 г. Жаніцца ўрадніку Харужану дазваляю. Спраўнік Юнацкевіч».

У філатэлістычнай калекцыі аб Лунінцы ёсць не толькі паштовыя штэмпелі паштовай канторы, але паштовага аддзялення на вакзале. Гэтае аддзяленне было адкрыта ў пачатку стагоддзя і пасля 1903 года стала ўжываць авальны штэмпель з подпісам «Лунінец-вакзал». Пра гісторыю горада тых гадоў могуць расказаць і паштовыя выпускі нашага часу. У 1911—1912 гадах у Лунінцы, пасля адбыцця тэрміну ў Мінскай турме, жыў беларускі паэт Якуб Колас, менавіта ў Лунінцы ён пачаў работу над паэмай «Сымон-музыка». Зараз адна з вуліц горада носіць імя паэта.

У гады першай сусветнай вайны непадалёк ад Лунінца, на Піншчыне, праходзіў вайсковую службу ў 13-й інжынерна-будаўнічай дружыне рускі паэт А. Блок. Паэт бываў у Лунінцы, усгамінае пра гэтае мястэчка ў сваіх пісьмах. Аб знаходжанні паэта ў горадзе напамінае мемарыяльная дошка на будынку краязнаўчага музея, вуліца яго імя.

У 1916 годзе ў Лунінцы пабываў М. Фрунзе, які пад прозвішчам Міхайлаў працаваў у Мінскім Саюзе земстваў і гарадоў. Ён стварыў у Лунінцы партыйную арганізацыю. Імя вядомага савецкага авіяканструктара, двойчы Героя Сацыялістычнай Працы П. Сухога таксама звязана з Лунінцом. Будучы авіябудаўнік у 1918—1921 гадах выкладаў матэматыку ў чыгуначным вучылішчы. Усім гэтым людзям пошта прысвяціла маркі, канверты, штэмпелі.

Да пачатку першай сусветнай вайны Лунінец так і не стаў горадам. Архіўныя дакументы гавораць, што аж да 1921 года ён лічыўся сялом, мястэчкам, пасёлкам, але часцей за ўсё станцыяй.

Па Рыжскаму дагавору 1921 года Заходняя Беларусь была адарвана ад Савецкай Расіі і перайшла да Польшчы. У гэтай частцы Беларусі ў 20-я гады назіраецца спад вытворчасці. У Лунінцы быў закрыты шпаланасычальны завод, які крыху пацярпеў у гады першай сусветнай і грамадзянскай войнаў. Будынак завода быў разабраны, а цэгла перададзена на будаўніцтва касцёла, былі размантіраваны некаторыя тэхнічныя збудаванні на станцыі, знята другая каляя чыгункі Мікашэвічы — Лунінец — Жабінка, была зачынена адзіная на ўвесь павет рэальная гімназія.

У верасні 1939 года Заходняя Беларусь увайшла ў састаў БССР. У канцы 1939 года была арганізавана Брэст-Літоўская чыгунка. Значэнне Лунінца як буйной вузлавой станцыі узрасло — адкрыўся ўчастак Лунінец — Гомель. У пачатку 1940 года на Лунінецкай пошце быў уведзены штэмпель з надпісам «Лунінец Пінскай вобласці». Гады вайны прынеслі гораду вялікія пакуты. Яшчэ ў самым пачатку вайны горад пацярпеў ад бамбёжак, многія дамы згарэлі. У ліпені 1941 года горад быў акупіраваны фашыстамі. Гэты цяжкі час працягваўся да ліпеня 1944 года, калі Лунінец быў вызвалены ад акупантаў. Усюды абгарэлыя будынкі, руіны, пажарышчы. Як і ўсе гарадскія ўстановы таго часу, пошта працавала з напружаннем. Не было нават штэмпеляў і масцікі, канвертаў і паперы, паштовых картак і квітанцый. На пісьмах таго часу, адпраўленых з Лунінца, можна знайсці намаляваныя ад рукі паштовым работнікам штэмпелі для заказных пісьмаў. Пазней, да канца 1944 года, хтосьці з работнікаў пошты выразаў такі штэмпель з гумы, і ім карысталіся працяглы час. У маёй калекцыі захаваліся гэтыя цікавыя пісьмы 1944 года.

Паступова жыццё ў горадзе наладжвалася. Горад аднаўляўся, выраслі новыя кварталы сучасных будынкаў. Адкрыліся новыя паштовыя аддзяленні.

**Леў КОЛАСАЎ.**

*АДКРЫЎСЯ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ*







**Пасля трыццацігадовага перапынку зноў прыняў экскурсантаў Магілёўскі краязнаўчы музей. Вярнуць яго да жыцця памагла група ленінградскіх майстроў, пасільную дапамогу аказалі прадпрыемствы вобласці.**
**Музей з густам адрэстаўрыраваны, у экспазіцыі створаны новыя аддзелы. Магіляўчане спадзяюцца, што з яго адкрыццём горад набыў цэнтр па духоўнаму і гістарычнаму адраджэнню.**

**НА ЗДЫМКАХ: у аддзеле прыроды; экскурсію вядзе старшы навуковы супрацоўнік музея Таццяна ШЧАРБАКОВА; ікона «Матка боская з дзіцем» работы мастака Баравікова (XVIII ст.) — адзін з экспанатаў музея.**

**Фота С. ЖАЛУДОВІЧА.**

## ДОБРЫ ДЗЕНЬ, БУСЕЛ!

Нават на Палессі чорны бусел у апошнія гады лічыўся рэдкай птушкай. Вучоныя нейкі час меркавалі, што ў сувязі з меліярацыяй земляў ён тут наогул перастаў гнездавацца.

Але цяпер становішча мяняецца да лепшага. Аматары прыроды многіх раёнаў Брэстчыны і Гомельшчыны ствараюць гэтай асцярожнай птушцы ідэальныя ўмовы для гнездавання і размнажэння. Актывісты пярвічных арганізацый таварыства аховы прыроды, лясгасаў, многіх гаспадарак поўдня рэспублікі ў спецыяльна адведзеных зонах цішыні абсталявалі сёлета больш як 400 пляцовак для гнёздаў, большасць з якіх «прынялі» цёмнакрылыя прыгажуны. Напрыклад, калі ў мінулым годзе на тэрыторыі калгаса «Зара камунізму» Іванаўскага раёна было зарэгістравана 16 гняздоўяў чорнага бусла, дык гэтай вясной тут 24 пары гэтых птушак.

Больш, чым летась, пасялілася чорных буслоў ва ўгоддзях Пінскага, Столінскага, Лельчыцкага, Петрыкаўскага, Жыткавіцкага і іншых раёнаў Палесся.

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

**ШАРАБЕЙКА Мікалай Пятровіч** шукае сваіх братоў — Пятра, 1938 ці 1939 года нараджэння, і Паўла 1941 года нараджэння, ураджэнцаў г. Дзісна былой Полацкай вобласці, а таксама маці — **МЯДЗЕЛЕЦ Ванду,** ураджэнку Швецыі. Пасля вызвалення Беларусі ад фашысцкай акупацыі яны выехалі ў Швецыю.

Просім усіх, каму што-небудзь вядома аб далейшым лёсе названых асоб, пісаць у рэдакцыю або на адрас:

**231600, БССР, Гродзенская вобласць, г. Масты, вул. Жукава, д. 24, кв. 14. ШАРАБЕЙКУ Мікалаю Пятровічу.**

**ЮШКЕВІЧ Мікалай Мікалаевіч** шукае сваякоў у ЗША.

Яго дзядзька, **КАРАЛЁЎ Васіль Рыгоравіч** (родны брат яго маці Каралёвай Надзеі), ураджэнец вёскі Паўловічы былой Бортніцкай воласці Магілёўскай вобласці, прыблізна ў 1913 годзе выехаў у ЗША.

Вядома, што да 1952 года ён разам з сям'ёй жыў у Дэтройце. Васіль Каралёў меў траіх дзяцей: сына Васіля, дачок Надзею і Анюту. Вядома таксама, што ў Васіля ёсць сын, імёны дзяцей Надзеі — Джэры і Дасна, у Анюты таксама ёсць дачка.

Просьба да ўсіх, хто можа дапамагчы ў пошуках родных **Мікалая ЮШКЕВІЧА,** пісаць у рэдакцыю або на адрас:

**213827, БССР, Магілёўская вобласць, г. Бабруйск, вул. Савецкая, д. 140, кв. 28. ЮШКЕВІЧУ Мікалаю Мікалаевічу.**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Зак. № 1038